ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 12 (111) 24 – 30 сакавіка 1995 г. Кошт 150 рублёў

# Віншуем з 77-мі ўгодкамі абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі!

## Дарагія суродзічы!

Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі вітае Вас са знамянальнай датай - 77-мі ўгодкамі незалежнасьці Беларусі.

Апошнім часам сілы, варожыя адраджэньню беларускай дзяржаўнасьці, намагаюцца стварыць для нашага народу ўмовы роспачы, выклікаць у людзей не толькі пачуцьцё абыякавасьці, але і, нават, непрыхільнасьці да самой ідэі беларускай незалежнасьці. На вялікі жаль, гэтыя сілы знаходзяць не толькі падтрымку сярод кіраўнікоў дзяржаўных структур Беларусі, але гэтыя кіраўнікі часта робяцца самі зачыншчыкамі антынацыянальных, разбуральных працэсаў на нашай Бацькаўшчыне. Таму барацьба Беларусі за сваю незалежнасьць заходзіць, хаця і паволі, у крытычны стан.

Адчуваючы вялікі непакой за будучыню Беларусі, як незалежнай дзяржавы, хочацца, аднак, верыць, што выбары ў гэтак званы Вярхоўны Савет Беларусі, прызначаныя на 14-га траўня, дадуць перавагу прадстаўнікам дэмакратычнага, адраджэнскага руху, якія здолеюць спыніць антынародныя дэструктыўныя працэсы, што адбываюцца на нашай Бацькаўшчыне.

Няхай Векапомны Акт 25-га Сакавіка згуртуе ўсіх беларусаў, як на Бацькаўшчыне, гэтак і на эміграцыі, на новую барацьбу за адраджэньне беларускай дзяржаўнасьці! Няхай Паходня, запаленая 25-га сакавіка 1918 года, зырка гарыць, асьвятляючы шлях да здабыцьця поўнай незалежнасьці Беларусі!

Няхай жыве вольная, дэмакратычная Беларусь!

**Расьціслаў ЗАВІСТОВІЧ,**
**Старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэта Амерыкі.**
**Міхась СЕНЬКА,**
**Сакратар**

## ВІНШАВАНЬНЕ

*Не толькі ў заходнім тут рэгіёне,*
*Ва ўсёй Беларусі вядома "Пагоня".*
*Каб нам не гібець у агульным загоне,*
*Змагаецца мужна газета "Пагоня".*
*І супраць вялікадзяржаўных агоній,*
*Каб шлях не таптал* *варожыя коні,*
*Каб мірна цьвілі нашы родныя гоні -*
*Хапае надзённых турбот у "Пагоні".*
*І не на захопніцкім нейкім жаргоне,*
*На матчынай мове даводзіць "Пагоня".*
*"Мы з новай культурай Эўропу дагонім!" -*
*Высакародны дэвіз у "Пагоні".*
*Каб жыў і мацнеў беларускі наш дух,*
*Шчыруюць Маркевіч, Астроўскі і Дук.*
*Сяброў і сябровак збірае сягоньня*
*На свой юбілей трохгадовы "Пагоня".*
*Мы ёй пажадаем пры гэтай нагодзе -*
*Дай Божа табе сьвяткаваць і стагодзе!*

**Антон МАЦЕЙКА,**
**г.Горадня.**

## ШАНОЎНЫЯ СУПРАЦОЎНІКІ І ЧЫТАЧЫ ГАЗЕТЫ «ПАГОНЯ»!

Сёньня, у сьветлы вясновы дзень 25 сакавіка ад шчырага сэрца віншую вас, дарагія спадарыні і спадары, са сьвятам - Днём Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

77 гадоў назад, у цяжкі ваенны час, сапраўдныя патрыёты нашай Бацькаўшчыны абвясьцілі аб утварэньні самастойнай незалежнай дзяржавы - Беларускай Народнай Рэспублікі. За вельмі кароткі час БНР прызналі многія дзяржавы Эўропы. Потым была БССР. Але больш чым 70 гадоў мара аб незалежнасьці жыла ў сэрцах беларусаў. І вось ужо чацьвёрты год як Рэспубліка Беларусь аднавіла сваю незалежнасьць, здабытую ў далёкім 1918 годзе.

І цяпер, калі першыя асобы дзяржавы здраджваюць сваёй Бацькаўшчыне, "Пагоня" не дае загінуць нашай справе.

Дзякуй Вам за сьмелыя артыкулы, праўдзівасьць, своечасовасьць, дэмакратычнасьць газеты.

Віншую Вас з Днём Незалежнасьці, жадаю і надалей "Пагоні" служыць незалежнасьці нашай краіны.

Жыве Беларусь !

**Юры ТАБАЛА,**
**Мастоўскі раён, в.Дубна.**

### Паважаная рэдакцыя "Пагоні"!

Шчыра віншую Вас са слаўнай датай нашай гісторыі - 77-годдзем абвяшчэньня БНР, Днём Незалежнасьці нашай Радзімы!

Незалежнасьць, суверэнітэт Бацькаўшчыны, абвешчаныя 25 сакавіка 1918 года і замацаваныя Першай Беларускай Канстытуцыяй, сёньня Прэзідэнт называе "чепухой".

Патрыёты, сапраўдныя сыны сваёй Радзімы, якім не абыякавы яе лёс у будучыні, перакананы і не губляюць надзеі, што іх агульнымі намаганьнямі ў барацьбе з ворагамі беларушчыны, чужынцамі, прыблудамі і рознамаснымі цемрашаламі - фальсіфікатарамі нашай гісторыі - нацыянальная ідэя ў хуткім часе стане рэальнасьцю, калі народ нашай краіны стане сапраўдным яе гаспадаром і вырашальнікам свайго лёсу.

Шаноўныя "Пагоняўцы"!

Дай Божа Вам моцнага здароўя, вялікага шчасьця, дабрабыту, непахіснай настойлівасьці і посьпехаў у Вашай нялёгкай і пачэснай працы на карысьць нашай любімай Бацькаўшчыны, працы, спрыяючай яе Адраджэньню, незалежнасьці і суверэнітэту.

Жыве Беларусь!

З прывітаннем сталы чытач "Пагоні"

**А.МАЛЫШЧЫК,**
**г.Ваўкавыск.**

У дзень самага вялікага сьвята для кожнага беларуса-патрыёта супрацоўнікі Гудзеўскага дзяржаўнага літаратурна-этнаграфічнага музея жадаюць усяму беларускаму народу заўсёды мець кіраўнікоў, якія шанавалі б свой люд, клапаціліся б пра яго, рабілі ўсё неабходнае для адраджэньня нацыянальнай сьвядомасьці ў тых, каго апрычнікі царызму і савецкай імперыі выхоўвалі ў духу ганьбаваньня родных традыцый, здрады роднай мове, выдыганьня перад акупанцкімі памкненьнямі суседзяў, здачы замежнай дзяржаве за пустыя абяцанкі нашага суверэнітэту, усяго нацыянальнага багацьця Беларусі.

Супрацоўнікам "Бацькаўшчыны", "Пагоні" шчыра дзякуем за клопаты пра адраджэньне нашай роднай мовы, гісторыі, культуры, беларускай дзяржаўнасьці.

Усім жыхарам Беларусі ў сувязі з 77-ай гадавінай абвяшчэньня Незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі жадаем плёну ў дзейнасьці для роднай Бацькаўшчыны!

Шчасьця Вам і добрага здароўя!

**Супрацоўнікі Гудзеўскага дзяржаўнага літаратурна-этнаграфічнага музея.**

**25 сакавіка - сьвяты дзень для кожнага беларуса, таму што Дзень Незалежнасьці - гэта галоўнае сьвята кожнага народа.**

**З гэтай нагоды 25 сакавіка а 18-ай гадзіне ў памяшканьні тэатра лялек (плошча Тызенгаўза) Горадні адбудзецца ўрачыстае сьвяткаваньне 77 гадавіны абвяшчэньня БНР.**

**Будзе наладжаны добры канцэрт, на які запрашаюцца беларускія барды, дыскатэка і "Батлейка".**

**Аргкамітэт.**

## РАЗЬЛІЧВАЮЦЬ АТРЫМАЦЬ ДАВЕР

Шэсьць дэпутатаў Вярхоўнага Савета будуць выбірацца да новага парламенту ў Віцебскай вобласьці. У прыватнасьці, тут вырашылі балатавацца В.Какоўка, В.Сакoвіч, І.Цярэшка, А.Цялежнікаў, У.Хвошч, а таксама былы сьпікер парламенту С.Шушкевіч.

На падтрымку віцебскіх выбаршчыкаў разьлічвае і намесьнік Ліберальна-дэмакратычнай Партыі Беларусі С.Гайдукевіч.

## ЛІДЭР ПАРТЫІ «ВОЗРОЖДЕНИЕ» ПЛАНУЕ БЫЦЬ ДЭПУТАТАМ

Лідэр нядаўна створанай у Магілёве народнай партыі "Возрождение" Валянцін Джэжуля плануе балатавацца кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета па адной з выбарчых акруг горада.

Раней спадар Джэжуля зьяўляўся памочнікам народнага дэпутата, старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па таварах народнага спажываньня Ціткова. Вядома, што ў свой час ён падпісваў акты па зьнішчэньню дакументаў, па якіх мясцовая намеклатура набывала тавары па зьніжаных цэнах.

**СІМ**

## РАШЭНЬНЕ АБЛАСНОГА САВЕТА ВЫКАНАНА

**Згодна з рашэньнем абласнога савета аб стварэньні абласной выбарчай камісіі адбылося першае яе паседжаньне яе членаў. Камісія будзе складацца з дзевятнаццаці чалавек. Адзінагалосна старшынёй камісіі абраны Аляксей Сямёнавіч Саўчык - загадчык абласнога аддзела народнай адукацыі. Намесьнікам і сакратаром камісіі, па прапанове Аляксея Сямёнавіча, абраны, адпаведна, П.В.Разумоўская і М.К.Пацерухін.**

Спадар Саўчык у сваёй кароткай прамове сказаў, прынамсі, так: "Выконваючы волю дэпутатаў абласнога савета, на Гарадзеншчыне створана 90 выбарчых акруг. Гэта значыць, што будучы абласны савет дэпутатаў будзе налічваць 90 народных абраньнікаў. Абласная выбарчая камісія не мае ніякіх адносін да выбараў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь. Мэта камісіі - кантраляваць выкананьне закона падчас выбараў у мясцовыя саветы".

У адказах на пытаньні старшыня абласной камісіі пажурыўся, што на будучыя выбары пакуль што няма грошай. Камісія пачала сваю працу дзякуючы зэканомленым шасьці мільярдам рублёў падчас леташніх прэзідэнцкіх выбараў. Таму збірацца камісія ў поўным складзе будзе толькі ў экстранных выпадках. Таксама пры неабходнасьці ў камісіі ёсьць магчымасьць арэндаваць легкавік, паслугамі якога маркуецца карыстацца пры крайняй неабходнасьці.

**Г.АСТРОЎСКІ.**

## КАМУ НЕПАТРЭБНЫ ПРЫВІЛЕІ

**Да рэдакцыі па-ранейшаму надыходзяць лісты ад чытачоў з адзінай просьбай: раскажаць, як прагаласавалі дэпутаты Вярхоўнага Савета за закон "Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь".**

**Сёньня газета "Пагоня" друкуе пратакол адкрытага галасаваньня.**

Не прынялі ўдзелу ў галасаваньні:

1. Антончык С.А.
2. Бардоўскі С.А.
3. Васільеў В.І.
4. Веславухаў М.М.
5. Германчук І.І.
6. Гілевіч Н.С.
7. Голубеў В.Ф.
8. Грыбанаў У.М.
9. Грушавы Г.У.
10. Дзейка Л.І.
11. Даўгалёў В.Б.
12. Даўжэнкоў У.С.
13. Жыдзіляеў І.І.
14. Заблоцкі У.М.
15. Какоўка В.Ф.
16. Козік Л.П.
17. Курбаеў У.Д.
18. Кучынскі В.Ф.
19. Лобач М.І.
20. Макейчанка Б.А.
21. Маркевіч М.М.
22. Навумчык С.І.
23. Нятылькін А.І.
24. Новікаў Я.В.
25. Радымысьльскі В.А.
26. Саковіч В.А.
27. Сямашка І.І.
28. Сярэдзіч І.П.
29. Сячко Л.Н.
30. Слабчанка С.І.
31. Цесавец М.М.
32. Турак А.М.
33. Шымчук Я.П.
34. Якубоўскі М.І.

## СЫШЛІСЯ Ў РУКАПАШНАЙ

Без малога да рукапашнай дайшла спрэчка паміж прадстаўнікамі ініцыятыўных груп па збору подпісаў за вылучэньне кандыдатамі ў дэпутаты камуніста В.Дзецкага і сацыял-дэмакрата А.Сокала. Групу апошняга рэпрэзэнтаваў каманьдзір Лідзкай харугвы БЗВ Іван Грос, які з лёгкасьцю разагнаў трох нядошлых камуністаў.

Камуністы на такія дзеяньні І.Гроса падалі скаргу ў Лідзкі гарвыканкам і, кажуць, на паседжаньні гаркама ПКБ прынялі рашэньне выходзіць на збор подпісаў не менш чым учацьвярых. Хай баяцца.

## АКТЫЎНАСЬЦЬ

У Лідзе найбольшай актыўнасьцю пры зборы подпісаў за вылучэньне кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета вызначаецца ініцыятыўная група А.Сокала. Спадар А.Сокал яшчэ з пятага сакавіка не толькі сам зьбірае подпісы, але і праводзіць сустрэчы з выбаршчыкамі. Так, 15 сакавіка такая сустрэча адбылася ў сп.Сокала са слухачамі курсаў перападрыхтоўкі вайскоўцаў запасу. Як правіла, сустрэчы даюць добры плён, нават у асяродках з камуністычным электаратам.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ**





# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ: «НАВОДЗІЦЬ ПАРАДАК У СВАЁЙ ХАЦЕ МЫ ПАВІННЫ САМІ»

**Аляксандр Уладзіміравіч Мілінкевіч нарадзіўся ў 1947 годзе ў Горадні, у сям'і настаўнікаў. Скончыў гарадзенскую СШ N 1 на выдатна. Пасьля школы паступіў у Гарадзенскі педінстытут на аддзяленьне фізікі. Атрымаўшы дыплом з адзнакай выкладчыка фізікі, сем год працаваў у Акадэміі навук у Менску, у гэты час пасьпяхова скончыў асьпірантуру інстытута фізікі. Дысертацыю кандыдата фізіка-матэматычных навук па спецыяльнасьці лазерныя тэхналогіі абараніў у 1976 годзе. З 1976 года дацэнт кафедры агульнай і тэарытычнай фізікі гарадзенскага педінстытута. 1980-1984 г.г. - працаваў у Алжыры, дзе выкладаў фізіку ў мясцовым універсітэце. У 1990 годзе абраны на пасаду намесьніка старшыні гарвыканкаму. Спадар Мілінкевіч курыруе пытаньні адукацыі, культуры, аховы здароўя, міжнародных зносін, рэлігіі, рэстаўрацыі старога горада. Жанаты. Жонка працуе ў абласным Палацы дзіцяча-юнацкай творчасьці Горадні. Сям'я Мілінкевічаў выхоўвае двух сыноў.**

**- Аляксандр Уладзіміравіч, чаму менавіта ў гэтыя выбары Вы вырашылі балатавацца ў Вярхоўны Савет?**

- У 1990 годзе я ўжо ўдзельнічаў у іх. Выйграў і першы, і другі туры, але не хапіла дзесятых доляў працэнта, каб прайсьці. Не шкадую. Па прапанове Сямёна Домаша быў абраны гарсаветам ягоным намесьнікам, гэтыя вопыт і веды, што набыў у гарвыканкаме за 5 гадоў, не атрымаеш у Акадэміях і універсітэтах.

Я іду на выбары, бо ў мяне ёсьць дзеці і я хачу, каб у іх была будучыня, якая можа зьдзейсьніцца толькі ў самастойнай эўрапейскай дзяржаве, імя якой - Беларусь. У 1990 годзе мы мелі магчымасьць найлепшага старту да рынкавых рэформаў, але ў выніку адсутнасьці канцэпцыі нацыянальнага разьвіцьця і палітычнай волі аказаліся ў найгоршым становішчы па ўсіх паказчыках перабудовы эканомікі ў Эўропе.

**- Вы маеце сваю канцэпцыю перабудовы эканомікі?**

- У гэтым няма неабходнасьці: шляхі выхаду з крызісу апісаны ў падручніках, яны агульнавядомы. Іх прайшлі дзесяткі краін і нам трэба толькі абагульніць вопыт і прыстасаваць яго да ўмоў Беларусі. Я лічу, што сёньняшняя арыентацыя выключна на Усход - памылковая. Нам кажуць: "На Захадзе нас ніхто не чакае!" Але і на Усходзе таксама. У Расеі нам прыдзецца канкурыраваць з той жа заходняй прадукцыяй. Нам патрэбны структурныя зьмены ў эканоміцы і сучасная тэхналогія. Неабходны вялізарныя сродкі. Дзе іх узяць? Браць вялікія крэдыты? Але іх трэба вяртаць і з немалымі працэнтамі. Расея разьлічваецца за пазыкі нафтай і газам. У Беларусі такога багацьця няма. Адзіная магчымасьць - заходнія інвестыцыі. Іх прасіць бессэнсоўна, яны прыдуць самі пры адной умове - стабільнасьць і пасьлядоўнасьць рынкавых пераўтварэньняў, сучаснае заканадаўства, што гарантуе выгадныя ўмовы інвестарам. Надзвычай важна, каб кіраўнікі дзяржавы не заяўлялі вечарам дыяметральна-супрацьлеглае ранішнім прамовам.

Восеньню мінулага года мне пашчасьціла прайсьці стажыроўку ў ЗША па пытаньнях мясцовага самакіраваньня ў гэтай буйной дзяржаве. Як ні дзіўна, менавіта там я адчуў вялізарныя эканамічныя посьпехі Кітая: амерыканскія крамы гандлююць не ўласным абуткам, адзеньнем, забаўкамі і г.д., а таварамі з КНР. "Чаму Вы не бароніце свой унутраны рынак?" - пыталіся мы ў высокапастаўленых амэрыканцаў. Нам тлумачылі, што гэта бессэнсоўна, працавітыя кітайцы гатовыя "грызьці зямлю" за 2 долары ў гадзіну, а ў Амэрыцы рабочы, калі яму запрапануеш менш, чым 8 доляраў, лепш пойдзе ў беспрацоўныя з дапамогай мала меншай. Паколькі ў Кітаі надзвычай нізкія падаткі і поўныя гарантыі інвестыцый, многія амэрыканскія заводы і фабрыкі зачыніліся і пераехалі ў КНР. У ЗША расьце беспрацоўе, у Кітаі - павялічваецца колькасьць рабочых месцаў. На сустрэчы з намі, кіраўнікамі гарадоў Беларусі, віцэ-прэзідэнт аднаго з найбуйнейшых сусьветных банкаў "Манхэтэнбанка" пераконваў у тым, што Беларусь - адна з самых багатых і перспектыўных краін Эўропы. На яго думку, сёньня галоўнае багацьце ў сьвеце - кваліфікаваная і танная рабочая сіла, інтэлект нацыі, а не нафта і газ, наяўнасьць якіх разбэшчвае і не стымулюе пошук эфектыўных шляхоў разьвіцьця.

**- Але ў нас часта гавораць, што за кошт інвестыцый "нас купяць" і мы будзем "рабамі" на іх прадпрыемствах...**

- У адказ прывяду толькі адзін канкрэтны прыклад. Амэрыканцы доўгі час, і нават яшчэ сёньня, змагаюцца з "экспансіяй" Японіі на іх унутраны рынак. Мэр сталіцы штата Агайё горада Калумбуса спадар Лашутка апавядаў нам, што на пачатку 80-х гадоў фірма "Хонда", нягледзячы на цяжкасьці, неяк здолела ў іх горадзе пабудаваць аўтамабільны завод. Сваіх аўтамашын няма куды прадаваць, а тут яшчэ японскія. Але ўсё ж-такі зьявіліся новыя рабочыя месцы, падаткі "Хонда" плаціла гораду і дзяржаве. Прайшло 10 гадоў, выдатныя амэрыканскія канструктары і інжынеры ўдасканалілі сваю "Хонду" настолькі, што яна стала лепшай за сучасную японскую. Яны яе грузяць на караблі і вязуць прадаваць у Японію... Дык хто каго ў гэтым выпадку "купіў" і хто ў каго "раб"?

Сёньня трэба гаварыць не аб рэарганізацыі капітала, а аб яго глабалізацыі. У сьвеце ідзе жорсткая бескампрамісная барацьба за прывабліваньне замежнага капіталу. На думку амэрыканскіх экспертаў, Беларусь са сваім сьціплым і працавітым народам магла б стаць для Эўропы тым, чым стаў Кітай для ЗША.

**- Ці значыць гэта, што Вы за заходні вектар у нашай зьнешняй палітыцы?**

- Не можа быць руху ў адным накірунку. У нармальнай эканоміцы няма "братоў і сясьцёр", ёсьць толькі ўзаемавыгадныя партнёры. Несур'ёзна быць супраць разьвіцьця эканамічных зносін з нашым магутным усходнім суседам, але і зьняважліва стаяць з працягнутай рукой і комплексам непаўнавартасьці нягодна таленавітаму беларускаму народу. Вельмі небясьпечнымі зьяўляюцца гульні ў "палітычныя і ваенныя саюзы", "калектыўныя бясьпекі", аб'яднаньні або ўз'яднаньні. Трэба шанаваць незалежнасьць і нейтралітэт, замацаваныя ў Канстытуцыі. Калі ў нас у апазіцыі дэмакратычныя сілы, то ў Расеі - нацыяналістычныя і камуністычныя, і ўлада на наступных выбарах відавочна пяройдзе да іх. Найбольш верагодным наступнікам Барыса Ельцына на пасадзе прэзідэнта на сёньняшні дзень зьяўляецца спадар Жырыноўскі, які ўжо паабяцаў беларусам ператварыць іх краіну ў Менскую губернію. А ці хочацца Вам пасылаць дзяцей ваяваць за "геапалітычныя інтарэсы" суседняй краіны або супраць "паўднёвых сэпаратыстаў"? На маю думку, трэба жыць з усімі ў згодзе і па магчымасьці сябраваць, але наводзіць парадак у сваёй хаце самім, бо ніхто за нас гэта лепш не зробіць.

**- З кім бы Вы хацелі перамагчы разам на выбарах?**

- Я мяркую, што сітуацыя напярэдадні выбараў надзвычай спрошчаная. Усіх палітыкаў можна падзяліць на два галоўных лагеры: тых, хто за дзяржаўнасьць Беларусі і тых, хто супраць. Галоўны лозунг для мяне сёньня: "Айчына ў небясьпецы!"



**- Акрамя палітыкі, чым яшчэ любіць займацца фізік-лазершчык Аляксандр Мілінкевіч?**

- Па-першае, каб не згубіць асноўную прафесію і ўменьне, я працягваю выкладаць ва універсітэце. Па-ранейшаму захапляюся гісторыяй Беларусі, краязнаўствам. Да сёньняшняга дня ў гэтым адчуваю духоўную падтрымку майго сябра Міхася Ткачова, якога, на жаль, ужо няма сярод нас... Мару зрабіць на дзедаўскай радзіме ў вёсцы Берinfinitive Шчучынскага раёна мясцовы этнаграфічны музей. Ужо перанёс туды драўляную стогадовую хату, накрыў яе саломай, сабраў нямала экспанатаў. Шкада, што не хапае часу.

Дарэчы, 11 ліпеня 1496 года кароль Аляксандр Ягелончык падпісаў прывілей аб наданьні Горадні поўнага Магдэбурскага права ў... Берштах. Праз год будзем сьвяткаваць 500-гадовы юбілей. Шчыра запрашаю!

**Распытваў Г.АСТРОЎСКІ.**

## ЗАЯВА

### дэпутатаў Апазіцыі БНФ

Беларускі Народны Фронт яшчэ ў 1990 годзе ў пачатку дзейнасьці Вярхоўнага Савета апошняга скліканьня выставіў ідэю будаўніцтва незалежнай Беларусі як бяз'ядзернай нейтральнай дзяржавы. Гэтая ідэя была станоўча ўспрынята беларускім грамадзтвам і міжнароднай супольнасьцю, знайшла заканадаўчае абгрунтаваньне ў Канстытуцыі краіны.

Мы лічым, што заява прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнка аб спыненьні зьнішчэньня звычайных узбраеньняў, якое абумоўлена міжнароднымі пагадненьнямі, падпісанымі нашай краінай, зьяўляецца адыходам ад канстытуцыйных нормаў нашага заканадаўства і мірных прынцыпаў беларускай міжнароднай палітыкі, не адпавядае інтарэсам беларускга народа.

Мы выказваем шкадаваньне, што прэзідэнт Беларусі А.Лукашэнка трапіў у залежнасьць ад стратэгічных інтарэсаў бяздоказных уладных і палітычных груповак Расеі, тых груповак, што разьвязалі злачынную бесчалавечную вайну ў Чачні і зацікаўлены ў блокавым супрацьстаяньні на Эўрапейскім кантыненьце.

Беларускі Народны Фронт выступае за незалежную дэмакратычную Беларусь - нейтральную краіну Эўропы і міжнароднай супольнасьці, якая не ўдзельнічае ні ў якіх мілітарных блоках і ваенных "калектыўных бясьпеках", праводзіць мірную палітыку і выконвае міжнародныя дагаворы і абавязацельствы.

Дэпутаты Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце:

**З.Пазьняк, М.Маркевіч, С.Навумчык, С.Бабачонак, А.Трусаў, Л.Зьвераў, Л.Дзейка, Г.Сямдзянава, І.Пырх, А.Паруль, В.Алампіеў, Л.Зданевіч, Б.Гюнтар, М.Крыжаноўскі, П.Садоўскі, У.Заблоцкі, Ю.Беленькі, А.Шут, П.Холад, У.Хітрык, А.Барысенка, І.Герасюк, Я.Глушкевіч, Я.Цумараў, В.Кахоўка, В.Малашка, В.Голубеў, І.Гермянчук, С.Антончык, Л.Баршчэўскі, С.Папкоў.**

## СТАРШЫНЯ КДБ ПРЫМЕ ЎДЗЕЛ У ВЫБАРАХ

Як паведамілі ў прэс-службе КДБ, Уладзімір Ягораў сапраўды мае намер вылучыць сваю кандыдатуру на парламенцкія выбары. Старшыня КДБ атрымаў прапанову ад калектыву калгаса імя Ільіча Чэрыкаўскага раёна Магілёўскай вобласьці (радзіма У.Ягорава) вылучыць сваю кандыдатуру ў іх выбарчай акрузе і даў згоду.

Па сьцьвярджэньню У.Ягорава, у Савеце бясьпекі яго зразумелі правільна, а А.Лукашэнка ён сказаў, што зьбіраецца падтрымліваць лінію прэзідэнта і будзе вылучацца як свабодны кандыдат.

## БЕЛАРУСЬ ПЛАНУЕ ПРАДАЦЬ 300 ТАНКАЎ

Як стала вядома, Беларусь мае намер прадаць каля трохсот танкаў Т-80, якія засталіся ад прыпыненьня выкананьня краінай Дагавора аб звычайных узброеных сілах у Эўропе. Гэтую інфармацыю падцьвердзіў першы намесьнік міністра замежных спраў В.Цэпкала. Ён заявіў, што, калі Беларусь не прадасьць іх зараз, то, згодна дагавору, яны павінны быць зьнішчаны.

В.Цэпкала не сказаў, з якімі краінамі вядуцца перагаворы аб пастаўцы беларускай зброі, назваўшы толькі Іран, дзе пабываў прэм'ер-міністр, Кітай і Таджыкістан.

## ПРАФСАЮЗЫ ЗАКЛІКАЮЦЬ ДА ЗАБАСТОЎКІ

На паседжаньні праўленьня Асацыяцыі незалежных прафсаюзаў прамысловасьці прынята заява, у якой крытыкуецца сацыяльна-эканамічная палітыка ўрада. У прыватнасьці, указ прэзідэнта аб мерах па сацыяльнай палітыцы АНПП расцэньвае, як "дзеяньні выканаўчай улады, накіраваныя на замарожваньне заработнай платы і правядзеньне масавых скарачэньняў працоўных".

На думку АНПП, "прафсаюзы не маюць права пагаджацца з палітыкай ураду, накіраванай на далейшае зьніжэньне ўзроўню жыцьця, замарожваньне заработнай платы, увядзеньня свабодных і некантралюемых цэн на прадукты харчаваньня". У заяве ўтрымліваецца заклік да падрыхтоўкі і правядзеньня агульнанацыянальнай папераджальнай забастоўкі і іншых акцый пратэсту.

**СІМ**

## Пастанова Вучонага Савета Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі ад 12 верасьня 1991 года.

**Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ГРЫБУ Мечыславу Іванавічу,**

**Старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаваньню гістарычнай спадчыны ГІЛЕВІЧУ Нілу Сямёнавічу,**

**Галоўнаму рэдактару "Народнай газеты" СЯРЭДЗІЧУ Іосіфу Паўлавічу**

**Мы, члены Вучонага савета Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі, з занепакоенасьцю адзначаем зьяўленьне ў некаторых айчынных і замежных сродках масавай інфармацыі матэрыялаў з неабгрунтаванымі нападамі на дзяржаўную сімволіку Рэспублікі Беларусь і з патрабаваньнямі яе перагляду. У сувязі з гэтым лічым неабходным давесьці да Вашага ведама зьмест пастановы Вучонага савета нашага інстытута, прынятай яшчэ ў 1991 годзе. Адзначаем пры гэтым, што вучоныя інстытута і сёньня не маюць падстаў мяняць або ўдакладняць сваю думку.**

Зыходзячы з таго, што герб Пагоня мае шматвякавую гісторыю і адлюстроўвае сумесную гераічную барацьбу беларускага і літоўскага народаў за сваю незалежнасьць;

- што ён у канцы XIV ст. стаў сімвалам іх дзяржаўнага саюза ў форме Вялікага княства Літоўскага;
- што ў слаўнай бітве пад Грунвальдам у 1410 г., якая паклала канец нямецкай агрэсіі на ўсход, беларускія палкі выступалі з Пагоняй на баявых сьцягах;
- што ў XV-XVI ст. выява Пагоні была на харугвах Берасьцейскага, Віцебскага, Полацкага, Мсьціслаўскага, Менскага, Віленскага, Наваградзкага ваяводзтваў і шэрагу паветаў Беларусі;
- што ў гербе Пагоня адлюстраваны нацыянальныя колеры беларускага народа - белы і чырвоны;
- што герб Пагоня і геральдычна зьвязаны з ім бел-чырвона-белы сьцяг у 1918г. зацьверджаны Сакратарыятам Беларускай Народнай Рэспублікі ў якасьці дзяржаўных сімвалаў Беларусі;
- што герб і сьцяг БССР, зацьверджаныя ў 1951 г., не адлюстроўваюць шматвекавую гераічную гісторыю і нацыянальныя колеры беларускага народа і сталі сімвалам адміністрацыйнага рэжыму;
- што пад сімвалам Пагоня і бел-чырвона-белым сьцягам разьвіваўся і разьвіваецца беларускі адраджэнцкі рух.

Вучоны савет Інстытута гісторыі АНБ прапануе:

1. Зацьвердзіць у якасьці Дзяржаўных сімвалаў РБ герб з выявай Пагоні і бел-чырвона-белы сьцяг;

2. Лічыць мэтазгодным надаць суверэннай Беларускай дзяржаве назву: "Рэспубліка Беларусь".

3. Вырашэньне пытаньня аб Дзяржаўным гімне Рэспублікі Беларусь даручыць кампетэнтнай камісіі;

4. Сталіцы Рэспублікі Беларусь вярнуць старажытную гістарычную назву - горад Менск.

Члены Вучонага савета Інстытута гісторыі АНБ:

**Касьцюк М.П., член-карэспандэнт АНБ, дырэктар інстытута; Біч М.В., доктар гістарычных навук, вучоны сакратар інстытута; Ліцьвін А.М., кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела; Лойка П.А., кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела; Шадыра В.І., кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела; Лыч Л.М., доктар гістарычных навук, вядучы навуковы супрацоўнік; Філякоў У.Г., кандыдат гістарычных навук, старэйшы навуковы супрацоўнік; Навіцкі У.І., доктар гістарычных навук, загадчык аддзела; Ксяндзоў У.П., доктар гістарычных навук, вядучы навуковы супрацоўнік; Галенчанка Г.Я., кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела; Вяргей В.С., кандыдат гістарычных навук, старэйшы навуковы супрацоўнік; Штыхаў Г.В., доктар гістарычных навук, загадчык аддзела; Чарняўскі М.М., кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела; Гурын М.Ф., доктар гістарычных навук, вядучы навуковы супрацоўнік; Языковіч Л.У., кандыдат гістарычных навук, старэйшы навуковы супрацоўнік; Кузьменка У.І., кандыдат гістарычных навук, старэйшы навуковы супрацоўнік; Шаблік В.У., кандыдат гістарычных навук, навуковы супрацоўнік; Мядзьведзеў А.М., кандыдат гістарычных навук, навуковы супрацоўнік.**

## ГРАМАДЗТВА

# НАФТА І ГАЗ – ТАВАР ПАЛІТЫЧНЫ

**Аскоміну набілі размовы аб пастаўках энерганосьбітаў. Што зробіш. Сваё маем, але не ў дастатковай колькасьці, і гэта штогод становіцца лёсаносным пытаньнем. Сітуацыю, у якой апынулася Беларусь апошнім часам, дарэчы параўнаць з той, калі купіўшы ў суседа лішнюю, але неабходную рэч па цане, якую яна мае на самой справе, той, пагардліва ставячыся да бяднейшага (суседа), прылюдна раз-пораз нагадвае аб гэтым: "Бачыш, каб я не дапамог..."**

**Праз колькі год Беларусь ўсё ж можа застацца без расейскай нафты. Прычын таму шмат. Не выратуюць аніякія дзьвюхбаковыя**



**міжурадавыя пагадненьні. Першапрычына таму - напластаваньне праблем у галіне нафтаздабычы. Тры чвэрці агульнарасейскіх запасаў нафты і газу сканцэнтраваны ў Цюменскім (Заходнесібірскім) рэгіёне. Выкладзеныя ў артыкуле аргументы і факты - вынік журналісцкіх дасьледаваньняў і назіраньняў у заходнесібірскім рэгіёне Расеі і прэсавых канферэнцый беларускага ўрада 1994-1995 гадоў.**

Сёньня айчынныя сродкі масавай інфармацыі шмат пішуць пра вялізную запазычанасьць за пастаўленыя энерганосьбіты, але гэта часовая зьява (не на дзесяткі год наперад). Зірнем на праблемы шырэй. Жыцьцясьцьвярджальныя перакананьні прэзідэнта рэспублікі А.Лукашэнкі пра надзейныя стасункі з Расеяй, пра танныя энерганосьбіты нішто іншае, як папулісцкі фарс. На першых парах пастаўка нафты і газу несумненна будзе.

Наяўнасьць вуглявадароднай сыравіны абумоўлівае прыярытэтны накірунак ва ўзаемаадносінах Расеі з іншымі дзяржавамі СНД. Сёньня нафта і газ перастаюць быць усяго толькі энерганосьбітамі, гэта, перш за ўсё, палітычны тавар (падзеі ў Чачні, Карабаху - таму яскравае сьведчаньне).

Пасьля 1988 года, які ўвайшоў у гісторыю як год максімальнай здабычы нафты ў Расеі - 569,5 мільёнаў тон, пачалося рэзкае зьніжэньне нафтаздабычы. За апошнія шэсьць гадоў гадавы аб'ём яе ўпаў больш як на 210 мільёнаў тон. Сярод асноўных прычын - эканамічны крызіс усіх галін рэспублікі, высокапрадукцыйныя залежы нафты, падобныя Саматлору, дзе "чорнае золата" біла фантанам, ужо выпрацаваныя. Пад гэтае месцанараджэньне збудаваны адзін горад - Ніжнявартаўск, у якім сёньня пражывае звыш 240 тысяч чалавек. Амаль паўсюдна нафтаздабыча ідзе ўжо механізаваным спосабам, на якую затрачваюцца значна большыя сродкі. З-за адсутнасьці фінансаваньня з бюджэту ў Расеі скарачаюцца разьведачныя і эксплуатацыйныя бурэньні з-за хранічных неплацяжоў. Аб'ём эксплуатацыйнага бурэньня зьнізіўся з 36 мільёнаў метраў у 1988 годзе да 20 мільёнаў метраў у 1992 годзе. Як ні прыкра, але даводзіцца канстатаваць: здабыцьцё нафты і спадарожнага ёй газу рэзка падае, а экспарт за валюту ў краіны далёкага замежжа нарастае, і яшчэ доўга энерганосьбіты будуць асноўнай экспартнай прадукцыяй для падтрыманьня сваёй грашовай адзінкі і гібеючай эканомікі.

"Нафтавая бочка" Расеі небяздонная. Па ацэнках амэрыканскага часопіса "Лайф" ( за 1990 г.), нафтавыя месцанараджэньні пры сёньняшніх тэмпах здабычы і экспарта "чорнага золата" будуць вычарпаныя да 2015 года. Дык што, нам яшчэ хопіць?! А дзецям? Сёньня якраз той час, каб закласьці падмурак для стабільнага і ўпэўненага іх жыцьця. Колькі не ўзважвай аргументы апанентаў, ідэя будаўніцтва Балтыйска-Чарнаморскага калектара найбольш слушная, хоць і патрабуе значных валютных выдаткаў. Яго стварэньне - своеасаблівы этап інтэграцыі аб'яднаўшыхся (пры яго будаўніцтве) краін рэгіёна у эўрапейскую сістэму энергазабесьпячэньня. У выніку, мы атрымалі б яшчэ адзін тэрмінал і магчымасьць качаць нафту з таго боку, дзе яна таньнейшая.

Шэраг краін, у тым ліку Расея, ужо далучаюцца да будаўніцтва тэрмінала па імпарту-экспарту нафты ў Буцінгу (Buting), што на балтыйскім узьбярэжжы Летувы. А ў якую долю ўвойдзем мы? Праўда, урад пачаў шукаць альтэрнатыўныя крыніцы паставак нафты ў Беларусь, скіраваўшы свой позірк на краіны Блізкага Усходу. Нарэшце. Бо спадзявацца заўжды на расейскую нафту па яе унутраных цэнах было б верхам наіўнасьці і пацьвярджэньнем дзіцячасьці сьветапогляду. Усе нафтавыя кампаніі зьяўляюцца прыватнымі, з цягам часу, з прыходам новых людзей у Дзярждуму, размовы аб дзяржквотах і ліцэньзіях па ўнутраных цэнах скончацца, яны будуць скасаваны. Таму адносна цэн і паставак прыйдзецца дамаўляцца з нафтаздабытчыкамі.

Сёньня Беларусь атрымлівае нафту па 75 долараў за тону, пры сусьветнай цане ад 100 да 111 долараў. Спадарожны газ набываем па 53 долары, калі ў самой Расеі не вышэй 25 долараў за тысячу кубаметраў. Візіт расейскага прэзідэнта Б.Ельцына раскрыў карты - акцыяніраваньне вядучых прадпрыемстваў рэспублікі з удзелам Расеі, стварэньне фінансава-прамысловых групаў. Вось так на нафтавай пене пасьлізнуўся суверэнітэт Беларусі. Якія атрымаем ад гэтага "дэвідэнты" - пакажа час. Бо менш чым праз 40 тыдняў ва ўсходняга суседа пройдуць выбары ў Дзярждуму. Невядома, хто там прыйдзе да ўлады. Выказваньні лідэра ЛДПР Уладзіміра Жырыноўскага, адносна суверэнітэту дзяржаў СНД, сумнавядомыя. Таму на ўнутраныя цэны застаецца толькі маліцца.

Сібір, тым больш Цюменскую вобласьць, ужо даўно запрашаюць ва Уральскую рэспубліку, ідэя якой яшчэ вісіць на рэгіянальным узроўні. І не толькі. Сібіракі настойліва патрабуюць самастойнасьці. Многія сібіракі, атаясамліваючы маскоўскі ўрад з мафіяй, "у глыбіні душы" спадзяюцца на рэгіянальны орган улады. Дарэчы, лагічным уяўляецца імкненьне жыхароў рэгіёнаў (Краснаярскага і Алтайскага краёў) заканадаўча адмежавацца ад дзеяньняў " рукі Масквы" і даць мясцоваму кіраўніцтву больш правоў і магчымасьцяў у рэалізацыі рэгіянальных інтарэсаў.



Канкрэтызуючы свае ўяўленьні аб жадаемым тэрытарыяльна-дзяржаўным ладзе Сібіры, 44% апытаных краснаярцаў і 43% алтайцаў гавораць аб неабходнасьці ўвядзеньня мытнай мяжы з іншымі рэспублікамі і рэгіёнамі, адпаведна 46% і 50% лічаць, што настаў час зьбіраць мытны падатак за правоз грузаў па Трансібірскай магістралі і Паўночнаму марскому шляху. На думку 31% і 37% рэспандэнтаў, неабходна свая канстытуцыя, 22% і 18% - выступаюць за свой сьцяг і гімн, 19% жыхароў дзьвух рэгіёнаў лічаць неабходным стварэньне ўласнай нацыянальнай гвардыі. Сепаратысцкі настрой сібіракоў падаграецца "збоямі" у функцыянаваньні інстытутаў улады на месцах (у тым жа завозе прадуктаў харчаваньня). Сібіракі лічаць, што "надта многа начальнікаў, але мала канструктыўнай дзейнасьці ўлад" (гл. часопіс РАН "Сацыялагічныя дасьледаваньні", 1993 год).

За паўтары гады з дня апытаньня, сітуацыя яшчэ больш ускладнілася неплацяжамі за энерганосьбіты, вайной у Чачні і шэрагам іншых сацыяльных фактараў. Інтэнсіўная дзікая здабыча прыродных багацьцяў апошнім часам натыкаецца на своеасаблівую, пакуль што інфармацыйную, вайну. Распрацоўваюцца самыя лепшыя залежы, а сярэднія і малаэфектыўныя у цяжкадаступных месцах цюменскіх балот "паблажліва" пакідаюцца нашчадкам. Пакуль "ямо вяршкі", няма патрэбы, лічаць, укараняць новыя тэхналогіі, як і за 30 год безліцэнзійнага асвойваньня Заходнесібірскага рэгіёна. Дзікая нафтаздабыча прыводзіць да экалагічнага забруджваньня рэгіёну, што нявыгадна не толькі паляўнічым і аленяводам, але і нафтавікам, большасьці якіх ад'язжаць няма куды на Вялікую Зямлю.

Хто ж гаспадар сібірскіх нетраў? З месцаў, дзе непасрэдна здабываецца нафта, 30% ідзе ў бюджэт акругі, 30% - у бюджэт раёна, 20% - вобласьці і 20% - у федэральны бюджэт.

Трэба прызнаць, што сёньня нафтаздабыча фактычна ператварылася ў стратную галіну. Хоць афіцыйна гэта пакуль не прызнаецца. Затраты растуць амаль што ў геаметрычнай прагрэсіі. Захопніцкая эксплуатацыя нафтагазавых багацьцяў Сібіры пагражае вялікімі экалагічнымі вынікамі. Штогод рэкамі Цюменскай вобласьці (Обь, Табол) у Паўночны Ледавіты акіян выносіцца звыш 120 тысяч тон нафты і іншых шкодных рэчываў. Толькі з-за прарываў нафтапровадаў, труб, неадпаведнасьці тэхналогіі здабычы ў Цюменскай вобласьці выліваецца каля 12 мільёнаў тон, столькі ж спажывае ўся Беларусь за год. Падчас вандровак па Заходнесібірскаму рэгіёну на верталётах і цягніках шмат даводзілася бачыць як ідзе здабыча нафты: працуючая качалка падобна на птушку, якая несупынна штосьці клюе. І як прыкмета нафтапромыслу - мноства нафтавых азёраў, дзе, як у люстэрку, адбіваюцца промні сонца і яскравае адлюстраваньне верталёта.

Шматлікія рукатворныя азёры зьявіліся сярод цюменскіх балот з прыходам нафтавікоў. Усё гэта ставіць месцы нафтапромыслаў на мяжу экалагічнай катастрофы. Ідзе пагубны працэс, які кінуў на мяжу экалагічнага крызісу цэлыя рэгіёны Сібіры і Поўначы. Знайсьці адказ на пытаньне, як удала збалансаваць разьвіцьцё эканомікі і экалогіі, канчаткова пакуль не ўдалося:

*Покорители природы,*
*Постарались вы не зря*
*Ропщут северные народы:*
*Нет ни рыбы, ни зверья.*

Дваццаць гадоў таму (у 1964 г.) у Цюменскай вобласьці здабыты першыя 290 тысяч тон "чорнага золата", а ўжо сёньня яна аб'яўлена зонай экалагічнага бедства і надзвычайнай экалагічнай абстаноўкі. У цэнтры Заходняй Сібіры штучна ствараецца пясчаная пустыня. Малакалькасныя народы Поўначы і Сібіры выцясьніліся з уласьцівых ім традыцыйных промыслаў зьбіраньня ягад, грыбоў, арэхаў, здабычы футра і рыбалоўства асятровых і ласосевых, становяцца выгнаньнікамі ў родных краях.

Аб'яднаўшыся ў Асацыяцыю народаў Поўначы, абарыгены, прадстаўляючыя 26 этнічных груп (налічваецца каля 184 тысяч чалавек), загаварылі аб сваіх праблемах, аб тым, што яны зnative загнаны ў вугал і пастаўлены ва ўмовы выраджэньня нацыі. Нафтавы "бум" абярнуўся для краю трагедыяй і ён не стаў квітнеючым рэгіёнам за свае нафтадолары. Экалагічныя страты, ў разьліку на адну тону нафты, у некалькі разоў пераўзыходзяць яе цану. Сабекошт яе стараюцца зьніжаць за кошт выкарыстаньня нізкаякасных і нетрывалых трубаў, ненадзейнай нафтаздабываючай тэхнікі, як расейскія, так і замежныя нафтавікі.

Ці ж не злачынства ў дачыненьні да спрадвечных жыхароў Сібіры, тых жа хантаў, якія ў сваім гістарычным разьвіцьці не прайшлі рабаўладальніцкі, феадальны і капіталістычны лад жыцьця, а сустрэлі "панявольнікаў Поўначы і Сібіры і Вялікі Кастрычнік" на стадыі патрыярхальнай грамады з адпаведным уціскам з боку шаманаў? Адпаведную культуру сюды завезьлі, у тым ліку і "вогненную ваду"...

Сёньня абарыгены з апаскай паглядаюць на новыя распрацоўкі месцанараджэньняў нафты, бо не хочуць быць часовымі і пасіўнымі назіральнікамі на сваёй зямлі (гл. здымак "Не губите наши чумы..." з архіва райгазеты "Новости Приобья").Яны дамагліся перадачы зямель у бязвыплатнае пажыцьцёвае ўладаньне. Так званыя радавыя ўгоддзі выдзяляюцца сем'ям, якія займаюцца традыцыйнымі народнымі промысламі і жывуць за іх кошт (да 300 гектараў, уключаючы тайгу, рэкі і пашу для аленяў). Ёсьць адпаведны, наконт гэтага, і Указ N 397 ад 22.04.1992 г. Прэзідэнта Расеі. Землі хантаў тэрытарыяльна сутыкаюцца з месцанараджэньнямі, а многія, яшчэ не разведаныя, знаходзяцца на іх. Нафтавікі прыйшлі на землі хантаў самавольна, не зважаючы на гэты народ. Але ён ёсьць і жыве тут стагоддзямі, нягледзячы на разбурэньне іх асяроддзя жыцьця.

Па ацэнках сібірскага аддзяленьня Расейскай Акадэміі Навук, здабыча нафты ў Заходняй Сібіры, пры захаваньні сёньня дзеючых умоў, складзе ў 1995 годзе 145 мільёнаў тон, г.зн. падзеньне нафтаздабычы ў Заходняй Сібіры рэальна працягваецца і толькі пры захаваньні шэрагу ўмоў будзе праводзіцца дынамічная перабудова нафтагазаздабываючага комплексу, цэнавая палітыка дазволіць паступова перайсьці да цэнаў значна набліжаных да сусьветных, а канверсія абаронных прадпрыемстваў паставіць нафтавікам надзейнае абсталяваньне, ужо ў 2000 годзе здабыча нафты ў Заходняй Сібіры магчыма падымецца да 275, а ў 2010 - да 370 мільёнаў тон. Гэта магчыма толькі пры выкананьні адпаведных умоў, якія пакуль не выконваюцца з-за адсутнасьці грашовых сродкаў.

Па падліках экспертаў Сусьветнага банка, толькі для падтрымкі нафтаздабычы на існуючым узроўні Расеі да 2000 года спатрэбіцца 25 млрд. долараў. А для таго, каб вярнуцца ў 2000 годзе да ўзроўню нафтаздабычы хаця б 450 млн. тон у год (для параўнаньня: у 1993 годзе здабыта каля 350 млн. тон), выдаткі павінны скласьці адпаведна 50 млрд. долараў...

Наіўна, але час лічыць свае нафтадолары і ўдзельнічаць у стварэньні Балтыйска-Чарнаморскага калектара. На ўласных сыравінных рэсурсах Беларусь выпускае 4% канчатковага прадукта, а 86% розных неабходных тавараў - дзякуючы пастаўкам з Расеі.

Прагнозныя запасы "чорнага золата" у рэспубліцы складаюць 160 мільёнаў тон (толькі разьведаных месцанараджэньняў, лік якіх набліжаецца да 60). Пры існуючых тэмпах здабычы яе нам хопіць на 80 гадоў. Але своеасаблівае выйсьце для рэспублікі - выкарыстаньне мясцовых крыніц энергіі. Яно ў патэнцыяле малых рэк, водасховішчаў, энергіі ветра. Нават там, дзе нафты дастаткова - у Ніжнявартаўскім раёне, у адным з нацыянальных пасёлкаў - Сасновы Бор - стаяць некалькі ветракоў і выкарыстоўваецца яго энергія для асьвятленьня хат, аўтаномнага забесьпячэньня жыцьцяздольнасьці вёскі.

Зрэшты, энергію ветра шырока выкарыстоўваюць Нямеччына, Швецыя, Данія і шэраг іншых краін сьвету. Але галоўны выхад у стварэньні канкурэнтназдольнай эканомікі, каб зарабіць цьвёрдую валюту для закупкі энерганосьбітаў па сусьветных цэнах. Не трэба чакаць паблажак сёньня, якія заўтра абярнуцца стратай суверэнітэту рэспублікі, чк для таго ж народу ханты.

Як кажуць, у кожнага перыяду свае песьні. Нафтазалежнасьць Беларусі ад яе ўсходняга суседа - Расеі - відавочная. Таму прамаруджваньне ў пошуку альтэрнатыўных крыніц энерганосьбітаў - недаравальнае. Яшчэ Марк Твэн казаў, што цяжэй усяго ў жыцьці ажыцьцявіць наступныя тры рэчы: узыйсьці на стаячую перад табой гару, пацалаваць уцякаючую ад цябе жанчыну і павучаць людзей таму, у чым яны разьбіраюцца лепш цябе самога.

**Л.ЯСЕНЬ.**

# СУМЕЖЖА

## «НАША МЭТА - ГЭТА АБ'ЯДНАНЬНЕ ЎСЁЙ НАЦЫІ...»

**Гутарка са старшынёй Рады Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" спадарыняй Ганнай Сурмач, якая нядаўна зноў наведала Вільню.**

**- Ці не найбольш плённыя сувязі ў Вас з беларусамі Віленшчыны?**

- Можа не найбольш, але гэта сапраўды плённыя кантакты, бо, ўвогуле, вельмі добра складваюцца міждзяржаўныя адносіны між Летувой і Беларусьсю, усталяваны нармальныя адносіны дзьвюх дзяржаў замест, як некалі, сацыялістычнага псеўдаспаборніцтва . Мы імкнемся дапамагаць беларусам у Летуве, каб яны мелі свае суполкі, і, дзякуй Богу, Летувіская дзяржава ставіцца да гэтага цывілізавана. Ёсьць дэпартамент, які займаецца справамі нацыянальных меншасьцяў. Гэта вельмі важна нават для самой летувіскай нацыі. Існуе, праўда, адзін нюанс - гэта этнічныя тэрыторыі, але гэта, лічу, зьява ў сьвеце звычайная, а наша задача - гэта дапамагчы ў разьвіцці культуры беларусаў у Летуве.

**- Ці гэта ўвогуле асноўная задача Згуртаваньня?**

- Асноўная задача - гэта аб'яднаньне ўсёй нацыі. Практычна гэта азначае стварэньне сусьветнай беларускай супольнасьці. Нам цяпер вельмі важна аб'яднацца, згуртавацца перад абліччам сапраўды гамлетаўскага пытаньня: быць ці не быць Беларускай Незалежнай дзяржаве? Гаворка ідзе пра арганізацыйнае аб'яднаньне. Акрамя гэтага - устанаўленьне культурных сувязяў. Раней жа дзяржаўныя чыньнікі не прызнавалі, што ў нас ёсьць беларускае замежжа. А тыя ж людзі не могуць выкінуць са свайго сэрца і сьвядомасьці родную песьню, свой танец, сваіх продкаў. Яны хочуць мець сувязі з Айчынай. Ім трэба дапамагаць: хоць мастацкі калектыў прывезьці, каб паслухалі, да сябе запрасіць, каб пабачылі сваю Бацькаўшчыну. Гэта - не палітыка, гэта - чыста чалавечы падыход, гэта - жыцьцё.

**- Вы сказалі пра стварэньне сусьветнай беларускай супольнасьці. У Польшчы падобная арганізацыя і называецца "Вспульнота Польска".**

- У Польшчы вельмі добра праводзілася і праводзіцца праца з замежжам. Гэта вельмі важна, што дзяржава не забывае пра сваіх дачок і сыноў, і мы часта вучымся на тым, што і як робіць у гэтым накірунку Польшча. "Вспульнота Польска" - гэта, як і мы, грамадзкая арганізацыя, але яна карыстаецца падтрымкай дзяржавы. На жаль, нашая "Бацькаўшчына" такой падтрымкі не атрымоўвае, бо, фактычна, мы не адбудавалі яшчэ нацыянальна сьвядомай дзяржавы, і таму нашая арганізацыя жыве з вялікімі складанасьцямі. У савецкія часы ў нас была імітацыя сяброўства з замежжам, была арганізацыя "Беларусь - Радзіма", якая падтрымлівала толькі пэўныя прасавецкія накірункі. Але ж большасьць нашае эміграцыі - гэта якраз тыя, хто савецкую сістэму не ўспрыняў. І менавіта з думкай пра гэтую большасьць і была створана наша альтэрнатыўная арганізацыя. "Бацькаўшчына", як арганізацыя Згуртаваньня беларусаў сьвету, паўстала ў верасьні 1990 г. на хвалі сьвяткаваньня 500-годдзя нараджэньня Скарыны - чалавека, які стаяў ля вытокаў сьвядомасьці нашай нацыі, і, менавіта ён, у 1990 годзе аб'яднаў беларусаў Беларусі і замежжа, якія прыехалі на сьвяткаваньне.

**- І першым вашым мерапрыемствам...**

- Быў Першы Зьезд беларусаў сьвету, які адбыўся ў ліпені 1993 года ў Менску. Прыехала на яго больш 1,5 тысячы дэлегатаў з замежжа і Беларусі. Практычна тады мы ўсьвядомілі, што вельмі шмат беларусаў жыве па-за межамі Бацькаўшчыны. Гэта недзе кожны чацьвёрты. Тут заважыла і гісторыя, і геаграфічнае становішча. Праз нашую тэрыторыю праходзілі ўсе катаклізмы, і цярпела заўсёды насельніцтва, частка якога выкідвалася з этнічнай тэрыторыі. Вельмі вялікія страты былі ў савецкія часы: гэта і рэпрэсіі, якія вынішчалі народ фізічна, і розныя "цаліны" і новабудоўлі былога Саюза, куды ехала найбольш маладая і, мабыць, найбольш працавітая частка насельніцтва...

**- Дзяржава Вас, як я зразумеў, не падтрымлівае ні маральна, ні, тым больш, матэрыяльна. А ці ёсьць нейкая падтрымка з боку багатай дыяспары ў багатых краінах?**

- Я прадстаўляю арганізацыю, якая на самым пачатку сказала сабе: ні ў якім разе не ставіць пытаньня так, каб карміцца за кошт дыяспары. На сёньняшні дзень, наколькі мне вядома, вельмі ўжо многа ў яе прасіцеляў грошай. Яе пачынаюць даіць як тую карову. І таму мы вырашылі: грошы ў дыяспары не зьбіраць. Мы нават складкі ў дыяспары не бярэм. Можа нехта, прыехаўшы, і пакладзе сотню доляраў за тое, што мы яму высылаем друк. Усё астатняе мы зарабляем самі: круцімся, так бы мовіць, ужо цалкам у рынку. Сёньня ўвогуле кожная ідэя мае нейкую вагу толькі тады, калі ты можаш забясьпечыць сябе матэрыяльна. Па статыстыцы ААН, усе дзяржавы выдаткоўваюць грошы на прапаганду сваёй культуры ў сьвеце. Гэта нармальная зьява. А наша дзяржава яшчэ не такая багатая.

**- Можа некалькі слоў пра сябе?**

- Я - гісторык па адукацыі. Пасьля заканчэньня Беларускага дзяржаўнага універсітэту многія гады працавала ў сістэме дзяржаўных архіваў, узначальвала Дзяржаўны архіў музея літаратуры і мастацтва. Ад самага пачатку адраджэньня я ўдзельнічаю ў гэтым працэсе, стаю за незалежнасьць нашай дзяржавы. Я адзін з арганізатараў "Бацькаўшчыны", і гэта мая, так бы мовіць, дзялка, дзе я хачу працаваць і працую.

**- Жадаю Вам посьпехаў у гэтай галіне і дзякую за размову.**

**Гутарыў Уладзіслаў СТРУМІЛА.**

## ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

"Пра тое, ці будзе новы ўрад камуністычным, ці не, будзе сьведчыць кшталт новай канстытуцыі," - засьведчыў кардынал Польшчы Юзэф Глемп, вярнуўшыся з Рыму. Ён таксама сьцьвердзіў, што афіцыйныя дэкларацыі адыходу ад марксізму павінны быць падцьверджаныя канкрэтнымі дзеяньнямі. На ягоную думку, стварэньне ў Польшчы мудрай Новай Канстытуцыі, якая глядзела б у будучыню і брала пад увагу імкненьні ўсяго народу, - было б першым канкрэтным крокам.

* * *

17 сакавіка ў Варшаве адбылася маніфестацыя працоўных вайсковай ды авіяцыйнай прамысловасьці. Намесьнік міністра прамысловасьці Раман Чарвінскі асьведчыў, што прафсаюз работнікаў вайсковых заводаў замест кампрамісаў шукае контрверсій, а гэтым шляхам праблемы не вырашаюцца.

Між тым, удзельнікі маніфестацыі дамагліся скасаваньня абмежаваньняў экспарту польскай зброі, падпісаньня шматгадовых урадавых заказаў на вайсковую тэхніку, падпісаньня новай калектыўнай дамовы аб працы, а таксама бясплатнай перадачы працоўным авіяцыйных ды вайсковых заводаў 20% акцый дадзеных прадпрыемстваў.

Падчас дэманстрацыі было спалена пудзіла прэм'ер-міністра Польшчы Юзэфа Алексы.

* * *

Шэф польскай дыпламатыі Уладзіслаў Барташэўскі лічыць, што Польшча мусіць больш актыўна ўдзельнічаць у сьвяткаваньні 50-х угодкаў заканчэньня Другой сусьветнай вайны.

- Гэткая дзяржава, як Польшча, якая мае такую як мы гісторыю і такое грамадзтва, не можа не прысутнічаць, альбо прысутнічаць недзе ў другім ранзе на гэтым сьвяткаваньні, - сьцьвердзіў ён у інтэрв'ю для польскага радыё. На думку сп. Барташэўскага, месцам, дзе павінен прагучаць голас Польшчы, зьяўляецца сталіца краіны, якая напала на Польшчу, горад, які ў 1945 годзе быў здабыты пры ўдзеле польскіх жаўнераў.

Тым часам Бонн засьведчыў, што ў сьвяткаваньні 50-х угодкаў заканчэньня Другой сусьветнай вайны ўдзел польскага прэзідэнта не запланаваны. Нямеччына плануе запрасіць прадстаўнікоў толькі чатырох краін, якія паканалі фашызм: прэзідэнтаў ЗША, Расеі, Велікабрытаніі ды Францыі.

## УКРАІНА

### ХАРКАЎ

Адкрыты прыём экспанатаў у музей "Сабатажнікаў, шавіністаў і адстаўнікоў ад украінскай культуры". Аб гэтым паведамілі 19 сакавіка прадстаўнікі палітычнага аб'яднаньня "Дэмакратычная Харкаўшчына".

У музей прымаюцца дакументы, фотаздымкі, магнітафонныя запісы, відэаплёнкі, газеты і публікацыі, у якіх раскрываюцца факты і сутнасьць антыўкраінскага сабатажу, накіраванага на падрыў стабільнасьці ўкраінскай мовы і адраджэньня СССР. У адносінах сабатажнікаў, па словах членаў "Дэмакратычнай Харкаўшчыны", будуць рабіцца "сякія-такія санкцыі".

### КІЕЎ

"Адносна Мяшкова мы будзем дзейнічаць так, як у сябе дома". Такую заяву зрабіў 20 сакавіка на прэс-канферэнцыі Старшыня Вярхоўнага Савета Украіны А.Мароз. На ёй адзначалася, што прынятыя парламентам краіны, ў адносінах Крыма, пакет дакументаў павінен прывесьці работу ўсіх органаў улады ў рэспубліцы ў адпаведнасьці з Канстытуцыяй Украіны. Пасада Прэзідэнта Крыма Асноўным законам не прадугледжана.

### ХАРКАЎ

"Я зрабіў гэта наўмысна, бо лічу Леніна катам, помнік якому трэба разбурыць", - заявіў 20 сакавіка на паседжаньні Дзяржынскага раённага суда горада Харкава Уладзімір Панкоў. Ён абвінавачваецца ў хуліганстве па артыкулу 206, ч.1 Крымінальнага кодэксу Украіны за тое, што некаторы час таму абліў чырвонай фарбай помнік Леніну, разьмешчаны ў цэнтры горада.

На думку мясцовых праваабаронцаў, справу неабходна разглядаць не ў крымінальным, а ў адміністрацыйным парадку. Аднак суддзі з гэтым не пагаджаюцца.

## РАСЕЯ

### ПРЫЧЫНА КРЫЗІСУ - НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

"Расейскае грамадзтва ўвогуле не схільна адчуць сваю ўласную віну", - заявіў Сяргей Кавалёў, выступаючы на семінары "Прававыя асьпекты чачэнскага крызісу". Гэты навукова-асьветніцкі семінар для праваабаронцаў і журналістаў арганізаваў Навукова-дасьледчы асьветніцкі цэнтр "Мемарыял". Каментуючы падзеі ў Чачне, Кавалёў адзначыў, што "нельга жыць у дзяржаве, якая так сябе паводзіць". На думку спадара Кавалёва, галоўнай прычынай чачэнскага крызісу зьявілася "аднабаковае рашэньне аб дзяржаўнай незалежнасьці Чачні".

### НАРКОТЫКІ І РЭЛІГІЯ

У памяшканьні рэлігійнай арганізацыі "АУМ СІНРЫКЕ" зроблены несанкцыянаваны вобыск, у выніку якога знойдзены наркотыкі. Вобыск быў праведзены супрацоўнікамі праваахоўных органаў Масквы. Аднак у сваёй заяве кіраўніцтва "АУМ СІНРЫКЕ" поўнасьцю абвяргае інфармацыю, што ў памяшканьні захоўваліся наркотыкі. Наадварот, у заяве сказана, што дзесяткі вернікаў бачылі, як міліцыянты прывезьлі з сабой мяшэчкі з невядомай начынкай і самі ж раскідалі іх па падлозе.

Акцыю міліцыянтаў прыхільнікі "АУМ СІНРЫКЕ" расцэньваюць як правакацыю.

### БЫЛЫ ДЫРЫЖОР - ХАБАРНІК

Былы дырыжор аркестра Заходняй групы войск маёр Г.Шкутнік, які абвінавачваецца ў атрыманьні хабараў, асуджаны на год і два месяцы пазбаўленьня волі без канфіскацыі маёмасьці. Такі вынесены прыгавор суда вайсковай часткі N 36822. Судом таксама ўстаноўлена, што з улікам часу, праведзенага абвінавачваемым пад вартай падчас сьледзтва, азначаны яму тэрмін пакараньня ён адбыў.

Г.Шкутнік вызвален з залы паседжаньня. Па рашэньню суда ён застаецца ў сваім вайсковым званьні і не пазбаўляецца заслужаных ім узнагарод.

(Э.-Х.)

## ДЗЯКУЙ ПРЭЗІДЭНТАМ ЗА ПРАЗРЫСТЫЯ МЕЖЫ

**Не пасьпелі, як кажуць, высахнуць чарнілы пасьля падпісаньня расейска-беларускіх дамоваў, як з гэтага дакументу скарысталі грамадзяне... Індыі, Бангладэш, Аўганістана, Шры-Ланкі. Што ім якасьць Беларусь, калі маскоўскія межы вядуць аж пад нашы Брузгі ці Сапацкіно.**

Вось і напачатку сакавіка з Масквы ў Горадню прыбыла з вышэйназваных краін вялікая група бежанцаў на Захад, у тым ліку сярод іх былі дзеці, жанчыны і хворыя на дызентэрыю. Прасядзеўшы звыш сутак у лесе, яны, падмануты "праваднікамі", згаладаліся і вымушаны былі выйсьці ў блізляжачую вёску. Тут "нярускіх" убачылі жыхары і затэлефанавалі памежнікам.

Зараз бежанцы жывуць у жаўнерскім кашары, ядуць салдацкую кашу. Зрэшты, так і будзе, пакуль у нашай дзяржаве не створаць цывілізаваныя законы.

**М.М.**

## НАРВЕЖЦАЎ ЦІКАВІЦЬ ЗАКАЗ, ГОРАДНЮ - АЧЫСТНЫЯ ЗБУДАВАНЬНІ

16-17 сакавіка ў Горадні знаходзілася дэлегацыя муніцыпалітэту нарвежскага горада Крысьціянсэнд. Яна была прынята ў гарвыканкаме. Мэр Горадні Генрых Крупенка і дэпутат з Крысьціянсэнда Пэр Олаф Квітлі падпісалі дамову аб пабудове ў горадзе над Нёманам збудаваньняў па ачысцы сьцёкавых водаў і вады за кошт сродкаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Нарвежскі бок будзе дамагацца атрыманьня грошай і ў выпадку іх выдзяленьня выступіць у якасьці падрадчыка. Яго цікавіць, у першую чаргу, заказ, бо ўсе работы будуць выконваца нарвежцамі. У сваю чаргу, горад таксама будзе рабіць заказы, каб атрымаць грошы.

Верагоднасьць атрыманьня сродкаў пад будаўніцтва ачыстных збудаваньняў у Горадні вялікая, бо Нарвегія ўваходзіць у першую пяцёрку донараў ААН і рэдка карыстаецца грашыма гэтай арганізацыі.

Аналагічныя прапановы ў свой час рабілі немцы і палякі, але ставілі ўмову, што будуць прывозіць сьмецьце і спальваць яго. Нарвежцы ж нічога не патрабуюць.

**А.ДУК.**

## ЛЕТУВА

### МНОГІЯ ПА-РАНЕЙШАМУ ХВОРЫЯ НА ПАЛІТЫКУ

**Служба інфармацыі і сацыяльна-палітычных дасьледваньняў, інстытут міжнародных адносін і палітычных навук па заказу фонда Ф.Наўмана правялі палітычнае дасьледаваньне "Палітычная культура Летувы". Былі апытаны 1002 грамадзяніна краіны з 115 населеных пунктаў усіх рэгіёнаў Летувы.**

Толькі кожны дваццаты рэспандэнт праяўляе пастаянны і глыбокі інтарэс да палітыкі. Яшчэ 45 працэнтаў палітыка цікавіць. Для 40 працэнтаў апытаных яна не прадстаўляе інтарэс. Астатнія яе ўвогуле ігнаруюць.

У дзейнасьці палітычных арганізацый прымаюць удзел 5 працэнтаў рэспандэнтаў, 12 працэнтаў - займаюцца агітацыяй у час перадвыбарчай кампаніі ці рэферэндумаў, 14 працэнтаў - ходзяць на дэманстрацыі, мітынгі, пікеты, удвая больш гатовыя падпісацца пад калектыўнымі заявамі.

Гісторыяй сваёй дзяржавы ганарацца 60 працэнтаў рэспандэнтаў, а урадам , Сеймам, судамі, эканомікай краіны - ад 0,9 да 2 працэнтаў.

У якасьці галоўнага дасягненьня Летувы часьцей за ўсё ўпаміналася аднаўленьне незалежнасьці (67,3 працэнта) і забесьпячэньне правоў і свабод чалавека (10,5 працэнта).

**LR**

## ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

**З АРХІВАЎ**

### 25 САКАВІКА 40 ГОД ТАМУ

# «ДАРАГІЯ ПАРТЫЙНЫЯ СЯБРЫ, УСЕ БЕЛАРУСЫ НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ І НА ЭМІГРАЦЫІ!

Беларуская Незалежніцкая Партыя вітае ўсіх Вас з 37-мі ўгодкамі абвешчаньня Незалежнай Беларускай Рэспублікі.

Крывавы Бальшавіцкі тыран патаптаў нашу Вольнасьць, акупаваў нашу тэрыторыю. Аднак ідэі Незалежнасьці ён ня мог здушыць у грудзёх беларускага народу.

ДАРАГІЯ ПАРТЫЙНЫЯ СЯБРЫ НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ!

Хоць моцны і люты ёсьць ворган з якім Вы змагаецеся, але Ваша мэта ёсьць сьвятая. У гэтым цяжкім змаганьні Вы маеце падтрыманьне Вольнага Сьвету.

Трымайце моцна ў сваіх пэўных руках сьцяг Вольнасьці, сьцяг Незалежнасьці беларускага народу. - ВЫТРЫВАЙЦЕ!

Вы ж, дарагія сябры замежжа, гуртуйцеся навокал Партыі і памятайце аб тых абавязках, якія на Вас узлажыла Партыя. Бязлітасна і ўсюды змагайцеся з камунізмам. Ідзіце пэўна да сваёй мэты - зьнішчэньня бальшавізму і вызваленьня свайго шматпакутнага народу.

**Хай гэты несьмяротны, жывы агонь у вашых грудзёх незгасае, хай ён разгарыцца ў вялікае полымя, якое сваёй сілай зьнішчыць грознага ворага і вызваліць з нядолі наш народ.**

**Слава змагара, якія злажылі сваё жыцьцё за вызваленьне Бацькаўшчыны!**

Слава героям і багатырам з радоў БНП, якія змагаюцца за вольнасьць і Незалежнасьць Беларусі!

Слава ўсяму Беларускаму Народу, якія не схіліў галаву перад лютым ворагам!

ЖЫВЕ ВОЛЬНАЯ І НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ!

Цэнтральны Камітэт Беларускай Незалежнай Партыі

Сакавік, 1955 г. Нямеччына».

**Падрыхтаваў да друку Ян ВЕЖАН.**

### 25 САКАВІКА 19 ГОД ТАМУ

# «ЗВАРОТ

Браты Беларусы! Сябры Б.В.Р-цы!*

Мінула 58 гадоў, калі Рада Беларускай Народнай Рэспублікі ў дзень 25-га сакавіка 1918 г. апавясьціла ўсяму Сьвету волю Беларускага народу аб адраджэньні незалежнай дэмакратычнай дзяржавы - Беларускай Народнай Рэспублікі - у яе этнаграфічных межах. Нарэшце зьдзейсьніліся адвечныя імкненьні Беларускага народу, і пачалася дружная праца па адбудове дзяржаўнага будынку. Але вораг не спаў. Лютым хіжаком накінуўся ён на адроджаную рэспубліку, каб паканаць яе. Адчайна абараняўся Беларускі народ, грудзьмі засланяў шляхі да роднае зямелькі, але сілы былі ня роўныя, і чырвоны тыран перамог. Запрацаўвала ГПУ. Перапоўніліся вязьніцы. Гінулі лепшыя сыны і дочкі - краса і гонар беларускага народу, усьцілаючы трупамі далёкія шляхі на Калыму, Таймыр, Байкал, Запаляр'е.

Але хоць Маскоўскія дэспаты задушылі адроджаную дзяржаву, яны не змаглі зьнішчыць вольналюбівага духа Беларускага народу, яго імкненьняў да свайго незалежнага самастойнага дзяржаўнага жыцьця. І 58 гадоў Беларускі народ няспынна вядзе барацьбу за сьвятыя ідэалы 25-га Сакавіка або ў шэрагу паўстаньняў, напрыклад: Аршанскае, Дабрамысьленскае, Сеньнінскае, Віцебскае-Сураскае, Вяліжскае, Гарадзецкае, Усьвяцкае, Тарапецкае, Любаньскае, Магілёўскае, Бельскае, Гжацкае, Парэцкае, Духаўшчанскае, Вязьненскае ў Полаччыне, станцыя Леленквіна, Гомельскае - гарнізон Стрэкапытава, Слуцкае, Койданаўская Незалежная Рэспубліка з атам. П.Калечыцам, Незалежная Партызанская рэспубліка ў трыкутніку Кузьмічы - Нежын - Кутніна з палк. Багалевічам, існаваўшая аж да 1927 г., паўстаньні Мірскае, Рагачоўскае, Івянецкае, Койданаўскае, Пяньkоўска-Будзкае, Бешанкавіцкае і інш., або ў Зялёнай арміі, як Магілёўская з 15 тысяч зялёных, атаманы Сокал, Трухан, лейц.Люцко, Хведар, Цішка, Моніч ды інш., або ў нацдэмаўскай працы, зародкам якое быў Ю.Лістапад.

58 гадоў Беларускі народ крывёю сваіх лепшых сыноў і дачок аплочвае непахіснае геройскае змаганьне за вызваленьне з-пад Маскоўскага ярма, за адбудову свае незалежнае дзяржавы. Беларускі народ спадзяецца і на нашу дапамогу. Ён чакае толькі зручнага моманту, каб дружна выступіць супраць Маскоўскіх акупантаў, скінуць накінутую Масквою камуністычную тыранію, ды пачаць адбудоўваць сваю вольную незалежную дзяржаву. Віншуючы Вас з 58-й гадаўшчынай Дня Незалежнасьці БНР, зычу здароўя, сілы і вытрываласьці ў далейшай барацьбе за сьветлыя ідэалы Векапомнага Акту 25 Сакавіка.

**Палк. Алесь БАРАВЫ,**
**Старшыня Галоўнай Управы БВР.**
**Сакавік 1976.»**

* - БВР - Беларускі Вызвольны рух - Беларуская ветэранская арганізацыя на эміграцыі. - Ян Вежан.

**Янка МАКАРЭВІЧ,**
**беларускі эміграцыйны паэт.**

### БАЙЦАМ ЗА ВОЛЮ

*Бязьвесна палеглі ў крывавым змаганьні*
*Ляжаць невядомым магільным капцом.*
*Ніхто тут не плача у сьвята караньні,*
*Ніхто не успомніць герояўбайцоў.*
*Ім вецер хаўтурныя маршы іграе,*
*Ды шопатам ціхім шалешча лазьняк.*
*Калінава веццэ да сну калыхае,*
*Да росы на раньніцу - маці сьляза.*
*Дык сьпіце байцы, хай сьніцца вам воля,*
*Бацькоўшчыны нашай, за што палеглі!*
*Засьсяе йшчэ сонца над нашай паголяй*
*І будзе народ наш - пан ўласнай зямлі!*

**ЮРКА СТАСЕВІЧ**

# ПАРТЫЗАНКА ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

**(Друкуецца на мове арыгіналу. Заканчэньне. Пачатак у N110.).**

Адбываліся крывавыя расправы. Гурына застрэлена ў Вільні. Лучніка з партызанамі ад абкама Наваградка, Кузьму, застрэлена, страляна лучніка на Піншчыне Гука і іншых. Вапшаўсу і Арлоўскаму наказана ісьці на адпачынак у СССР, у слаўную Лошыцу. Вапшаўсаў, Арлоўскі, Корж, Рабцэвіч і яшчэ некалькі чакістаў, што былі з імі, атрымалі нагароды і паехалі ў Менск (Корж, Рабцэвіч атрымалі потым генеральскія чыны, Вапшаўс і Арлоўскі - палкоўніцкія). Рэшту трымалі ў Лошыцы. Іх там і растраляна разам з Мухай, паводле тых вестак, якія прынёс наш партызанскі выведнік (успаміны ат.Перагуда), як і паводле асьветчаньняў самых камуністычных дзеячоў (Анісаў, Корчык), калі іх пыталі свае камуністы (Корчык потым быў так жа растраляны). Ахвіцыяльны повад быў, што мухаўцы ў начы выкраліся з Лошыцы і абрабавалі савецкі цягнік. Паводле цэкіста Канстанчука, як ён чуў ад аднаго Польскага цэкіста, Муху растраляна значна раней, яшчэ ў 1924 годзе, бо быў нявыгодны для дзеяньняў чакіста Арлоўскага. Нам цікава было б даведацца больш аб новай версіі "гіторыка" Ладусёва, што Муха быў убіты ў спатычцы з Палякамі. Дзе? Калі? І чаму ўсе да гэтае пары аб гэтым маўчалі? І ніхто аб гэтым ня знаў і не напісаў?

Партызанка Зах.Беларусі 1919-1925 г.г. была спачатку часткова стыхійная, а потым арганізаваная сьцісла пад сьцягам Беларускай Народнай Рэспублікі. Чаўпня аб нейкіх сутыках яе з Польскай ўладай - звычайная брахня. Затое ёсьць фактам, што на тэрыторыі З.Беларусі была антысавецкая партызанка "Зялёнага Дуба" атамана Дзяркача, які меў штаб у Пінску і якога атрады складаліся ў бальшыні з беларусаў з БССР, былых Балахоўцаў і перайшоўшых Польскую мяжу "зялёных". Гэтым атрадам дапамагала Польшча (цэнтры ў Баранавічах, Лунінцу і інш.) зброяй і іншым і дапамагала ім пераходзіць савецкую мяжу для баёвай дзейнасьці там. Але на адмену ад Расейскіх камуністаў у атрадах "Зялёнага Дуба" былі ўсе беларусы і то са Усходняй Беларусі, а не так як савецкія дыверсанты Вапшаўсы, ўдаваўшыя мясцовых Беларусаў.

**P.S.: Заўвага 1-я.** Нядаўна зьмешчаны ўспаміны памерлага дац.Яўхіма Кіпеля ў "Беларусе" - удзельніка абвяшчэньня Сав.Беларускай Рэспублікі ў Смаленску, у якіх ён успамінае, што ў сав.канц. лагерах сустрэў былых партызанаў у Лошыцы. Значыць выходзіць, што ў Лошыцы растралялі не ўсіх, а некаторых выслалі даканчвацца ў лагерах.

**Заўвага 2-я.** Гісторык Ладусёў паклікаецца на архіўныя дадзеныя, дык хіба яму будзе лёгка знайсьці справаздачу сваім уладам чакіста дыверсанта Арлоўскага, аб разьмежаваньні тэрыторыі дзейнасьці савецкай партызанкі: Арлоўскага і падручных, ад партызанкіназываўшай сябе: 5-ай групай Войск БНР, на дамаганьне гэтай апошняй, Арлоўскі пад імем "Аршынава" прымаў асабіста ўдзел у спатканьні з прадстаўнікамі партызанкі БНР (Харэўскі, Хмара (Разумовіч - С.Д.)) і пагадзіўся на размежаваньне (на Усход ад Віленска-Баранавіцка-Лунінецкай чыгункавай лініі прызнавалася Мусе-Аршынаву і супольнікам, на Захад ад гэтае лініі - для партызанкі 5-ай Групы Войск БНР).



## КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

### СУСТРЭЛІСЯ Ў ГОРАДНІ

У папярэднім выпуску "КХ" паведамлялася аб тым, што ў Горадні двое злачынцаў з Пярмі спрабавалі завалодаць легкавіком жыхара Ваўкавыска. Праз тыдзень сітуацыя паўтарылася. З той толькі розьніцай, што пацярпелым стаў ужо грамадзянін Расеі - 38-гадовы жыхар Ленінградскай вобласьці.

Калі 2100 "зялёных" былі перададзены ўладальніку БМВ, той, разам з двума сябрамі, папрасіўся на развітанне праімчацца ў легкавіку ўжо ў якасьці пасажыра. Але на перакрыжаваньні вуліц Дзяржынскага і Курчатава "штурман" быў нечакана адхілены ад руля і выкінуты "за борт". Аднак, толькі на вельмі кароткі час жалезны конь вярнуўся да былога гаспадара.

У вобласьці тэрмінова быў уведзены ў дзеяньне план "Перахват". Праз паўгадзіны троіца беглякоў з Растоўскай вобласьці была затрымана нарадам дарожна-патрульнай службы на шашы Горадня-Скідаль. Двое ліхіх казакоў апынуліся за кратамі.

### "МАЎЧАНЬНЕ" БЫЛО НЯДОЎГІМ

Яшчэ адзін разбойны напад, зьдзейснены ў Астравецкім раёне, меў інтэрнацыянальную "афарбоўку".

Пасьля некалькіх месяцаў "маўчаньня" зноў гучна заявілі аб сабе "аўтаракетчыкі". Каля вёскі Ліпкі пяцёра злачынцаў у масках спынілі летувіскі "Ікарус", які ішоў з Масквы, і, пагражаючы, запатрабавалі "даніну" па тры тысячы долараў "з носа". Калі ж "чаўнакі" сабралі "толькі" 1500 долараў, бо якраз езьдзілі ў Беларусь па тавар, то "маскі" суцешыліся і гэтай сумай і нават ветліва пажадалі "шчасьлівага шляху".

### "УСПАМІНАЙЦЕ, ЧАСАМ, БЕДНАГА СТУДЭНТА..."

Магчыма, як і Раскольнікава, толькі цяжкае матэрыяльнае становішча падштурхнула студэнта сельскагаспадарчага інстытута на небясьпечнае злачынства. Апоўначы, недалёка ад сьцен альма-матэр, 20-гадовы рабаўнік выхапіў сумачку з рук прадпрымальніцы. "Улоў" аказаўся небагатым - 10 тысяч "зайцоў" і флакон дэзадаранту, а вось тэрмін за гэта...

Амаль аднячасова прадстаўніца яшчэ аднаго ВНУ - медінстытута, трапіла ў арбіту крымінальных здарэньняў, толькі ў якасьці пацярпелай. Бавячы час у рэстаране "Зубр", студэнтка на хвіліну пакінула на сьпінцы крэсла сумачку з невялікай сумай грошай, на якую паклаў зайздроснае вока, а потым і руку мастак з МП "Вежа".

### "П'ЕМ-С..."

Алкагольна-напойная дрыгва, якая ўсё глыбей і глыбей засмоктвае наша грамадзтва, рэгулярна "узбагачае" крымінальную статыстыку крывава дзікунскімі ўчынкамі. Калі раней у падобных здарэньнях мільгацелі асобы з багатым крымінальным мінулым, то зараз чарга дайшла і да нядаўна мірных абывацеляў, часьцяком сталага ўзросту. Як, напрыклад, здарылася ў Ваўкавыску. Тут 68-гадовы вартаўнік пасьля ладнага застольля не паладзіў з суседам, крыху старэйшым за яго. Калі пачуцьці зусім затуманілі п'яную галаву, ён схапіў дубальтоўку і адкрыў страляніну па суседу, а потым і па яго жонцы. У выніку пацярпелыя шпіталізаваны, а збройны хуліган затрыманы.

* * *

У вёсцы Паланая Карэліцкага раёна, зноў жа за застольлем, сварка паміж мужам і жонкай закончылася крывёй. "Не вытрымалі нервы" ў ачмурэлага гаспадара і нанёс ён жонцы ліхадзейскі ўдар у сьпіну. Дзякуй Богу, несьмяротны.

* * *

Яшчэ адна ахвяра сямейных разборак зарэгістравана на Зэльвеншчыне, дзе ўжо мужык, таксама не па сваёй віне, наведаў лячэбную ўстанову. Праўда, жонка бажыцца, што не жадала гэткіх наступстваў, і ўсё здарылася па неасьцярожнасьці - толькі дзеля абароны ад распаленага напоямі мужыка ўзяла ў рукі нож.

### ЦЯЖКІ АЎТОРАК

Невядома, ці то нячыстая сіла правіла ў мінулы аўторак свой баль, але дзень аказаўся "рэкордным" на няшчасныя выпадкі.

Спачатку, у 18 гадзін, сямікласьнік Шчучынскай СШ N 2 спатыкнуўся і параніў сябе ў жывот нажом, які знаходзіўся ў кішэні курткі.

У 21 гадзіну ў Гарадзенскую бальніцу хуткай дапамогі быў дастаўлены ў непрытомным стане са сваёй кватэры на БЛК непрацуючы гарадзенец Г. з атручэньнем невядомага паходжаньня.

А два выпадкі, наогул, скончыліся лятальным зыходам. У Смаргонскім раёне, падчас механічнай распілоўкі дроў на трактары, хлопчыквасьмікласьнік атрымаў сьмяротную траўму галавы.

У Сьвіслацкім раёне рабочы саўгаса "Вердамічы", знаходзячыся на падпітку, упаў з ганка асабістага дома і стукнуўся галавой аб бетонную дарожку. Сьмерць наступіла на месцы.

**І.ДАНІЛОВІЧ.**





## ВАНДАЛЫ Ў ПАРКУ

Пакпіўшыся на каляровы метал, што аздабляе ў Новым парку Горадні сярэднявяковага беларускага рыцара ў нішы стэлы ўстаноўленай у гонар 850-годдзя горада, зламысьнікі разламалі гэты помнік гістарычнай памяці беларусаў. Павырывалі медны дрот з асьвятленьня і, наталіўшы сваю жывёльную прагу да "зялёных", адыйшлі.

На жаль, ні гарадзкія ўлады, ні славутыя гарадзенскія пінкертоны не змаглі зась-пець вандалаў на "гарачым".

Дакуль жа іх можна цярпець?

**Фатаграфаваў У.УЛАДАСЕВІЧ.**



## ВАЛЕРЫ ШАНТАЛОСАЎ ВЯРТАЕЦЦА, АЛЕЙНІКАВА НЕ АДПУСКАЮЦЬ

**Праблем у беларускіх футбольных легіянераў зараз хоць адбаўляй. Нацыянальнай зборнай ад гэтага не лепей.**

**Прабыўшы на Туманным Альбіёне бадай два месяцы варатар нацыянальнай зборнай Беларусі вяртаецца назад у Ніжні Ноўгарад.**

На жаль, спадару Шанталосаву непашчасьціла падпісаць у Велікабрытаніі кантракт з якой-кольвечы прафесійнай камандай. 14-га сакавіка разам са сваімі аднаклубнікамі з Лакаматыву Шанталосаў адпраўляецца на зборы ў Сочы.

Няўдача першага галкіпера зборнай толькі засмуціла трэнераў зборнай, бо на сёньня абодва асноўныя варатары галоўнай каманды Беларусі будуць прадстаўляць адзін і той жа клуб на Расейскім чэмпіянаце. Не лепш складваюцца справы і ў іншых нашых футбалістаў, што гуляюць у Расеі. З-за траўмаў ня здолеюць у бліжэйшы час выступаць за зборную В.Вялічка, М.Рамашчанка. Значна лепей ідзецца беларускім легіянерам на футбольных палях Зямлі Абяцанай. Экс-дынамаўцы Сяргей Герасімец і Юры Шуканаў на вядучых ролях у ізраільскіх клубах. Сяргей Герасімец з 13-цю забітымі мячамі ўзначальвае сьпіс лепшых снайпераў чэмпіянату. А вось Сяргея Алейнікава, які абараняе спартыўныя колеры японскага клуба "Гамба" кіраўніцтва каманды адмовілася адпускаць на гульні зборнай. Што тычыцца беларусаў, якія працягваюць сваю футбольную кар'еру ў Эўропе, то ў іх усё больш-менш ладна. Аляксандр Мятліцкі стабільна выступае за аснову аўстрыйскага клуба "Ласк", Андрэй Зыгмантовіч цэментуе абарону сантандэрскага "Рэсінга" у Іспаніі, Андрэй Юсіпец і Юры Сьмірноў добра сьпісваюцца ў сваіх нямецкіх клубах, вось бы яшчэ пазьбегнуць ім і траўмаў, тады агульны рэйтынг беларускай зборнай (чытай беларускага футболу) у Эўропе быў бы значна вышэйшым.

**Г.АСТРОЎСКІ.**

## АБЛАСНЫ СУД ПАДТРЫМАЎ РАЁННЫ

"Пагоня" (N 100 і 107) ужо пісала пра звальненьне Воранаўскім райвыканкамам з пасады загадчыка аддзела адукацыі выканкама П.Орпіка і прыняцьця народным судом Лідзкага раёна рашэньня ад 17 студзеня бягучага года аб аднаўленьні яго на працы. 23 лютага выканкама выканаў яго, але ж, не пагадзіўшыся з ім, падаў касацыйную скаргу ў Гарадзенскі абласны суд.

20 сакавіка на сваім паседжаньні абласны суд разгледзеў яе і не пагадзіўся з довадамі выканкама, тым самым пацьвердзіў рашэньне суда Лідзкага раёна аб аднаўленьні П.Орпіка ў якасьці загадчыка аддзелам адукацыі.

**С.РЭЎКА.**

## ПЯЦЬ ВАГОНАЎ БАВОЎНЫ ЗА ВІЗІТ

Споўнілася нарэшце абяцаньне прэзідэнта А.Лукашэнкі заваліць Беларускія прадпрыемствы ўзбецкай бавоўнай. На Гарадзенскае Прадзільна-ніткавае аб'яднаньне прыйшло аж пяць вагонаў баваўнянай сыравіны.

На жаль, гэтага запасу хопіць прадзільнікам усяго на два тыдні працы, ды і то на адну зьмену.

Наступны ўраджай будзе напрыканцы лета.

## НАВАГРАДЦЫ ШЫЮЦЬ ШКОЛЬНУЮ ФОРМУ

На навагрудзкай швейнай фабрыцы адкрыўся ўчастак па пашыву школьнай формы. Сёлета навагрудзкія швейнікі плануюць пашыць некалькі дзесяткаў тысяч школьных строяў.

* * *

Шчучынскі завод "Аўтапровад" можа страціць палову працоўнага калектыву. Прычына - нягеглыя захады адміністрацыі, дзякуючы якім страчаны амаль усе рынкі збыту на выпускаемую прадукцыю.

## БУДЗЕМ З ЗУБАМІ

На 15 тысяч дойчмарак набыло абсталяваньня і лекаў у Нямеччыне гарадзенскае ВА "Хімвалакно" для другой стаматалагічнай палілікінікі Горадні.

**Г.П.**



## КАНФІСКАВАНЫ СЬПІРТ

**Амаль тры тысячы трохлітровых слоікаў сьпірту, якія перавозіліся з Украіны ў Санкт-Пецярбург, былі затрыманы супрацоўнікамі віцебскай мытні і потым канфіскаваны. Нягледзячы на высокую якасьць, ён можа быць выкарыстаны толькі ў вытворча-тэхнічных мэтах.**

Падсьвільскі вінзавод, які набыў 400 слоікаў сьпірту па 4 тысячы рублёў за літр, праз некалькі дзён адмовіўся ад іх, матывуючы гэта адсутнасьцю сертыфіката якасьці, і таксама тым, што практычна ў кожным слоіку не хапае 200-300 грамаў прадукта.

**СІМ**

## ШАЦІЛАВІЧЫ (СЬВЕТЛАГОРСК). БЗВ ПАПЯРЭДЖВАЕ

**Шацілавіцкая (Сьветлагорская) арганізацыя БЗВ Гомельскай вобласьці натуральна ўварвалася ў грамадзкае жыцьцё раёна. Створаная чатыры месяцы назад, яна рашуча выступіла на абарону дзяржаўнасьці і незалежнасьці Беларусі.**

Арганізацыя накіравала папераджальныя лісты старшыні раённага выканаўчага камітэта, сакратары гарадзкога Камітэта Партыі камуністаў А.І.Просінай і намесьніку генеральнага дырэктара вытворчага аб'яднаньня "Хімічнае валакно" сябру ПКБ В.П.Касічу аб недапушчальнасьці публічных выступаў, скіраваных супраць дзяржаўнасьці Беларусі, якія мелі месца з іх боку.

Быў накіраваны таксама ліст начальніку адной з будаўнічых арганізацый горада, у якой рабілася спроба наладзіць дзейнасьць структуры ЛДП, аб недапушчальнасьці дзейнасьці палітычных партый на прадпрыемстве.

Шацілавіцкая арганізацыя БЗВ пакуль папярэджвае.

**Усяслаў ВОЙНІЧ.**

**"ПАГОНЯ"**
**Рэдактар М.МАРКЕВІЧ.**
**Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".**
**Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.**
**Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.**
**Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.**
**Пры передруку спасылка абавязкова.**
**Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест разьмешчанай у газеце рэкламы.**
**Індэкс 63124.**
**Фотанабор, афсетны друк.**
**Гарадзенская абласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.**
Заказ 1118
Наклад 10944 паасобнікі.